# Голас Радзімы

№ 45 (2083)
10 лістапада 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Генадзь Бажко — дырэктар саўгаса «Яхімоўшчына» Маладзечанскага раёна. Кіраўнік малады, энергічны, высокаадукаваны. Менавіта з ліку тых людзей, якіх паўсюдна вылучае сёння перабудова. Здольны і арганізаваць працу ў гаспадарцы, і паклапаціцца аб дабрабыце людзей. Усяго два гады ўзначальвае ён саўгас, але «Яхімоўшчына» ўжо паспела ўвайсці ў лік лепшых на Маладзечаншчыне.**

**НА ЗДЫМКУ: Генадзь БАЖКО з дачкой Інай.**

**(Матэрыял пра дырэктара «Яхімоўшчыны» змешчаны на 3-й стар.).**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**

БЕЛАРУСЬ У ААН

## МІЖНАРОДНАЯ БЯСПЕКА — СПРАВА РЭАЛЬНАЯ

Міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч выступіў у першым камітэце ГА ААН у агульнай дыскусіі па ваенна-палітычных аспектах умацавання еўрапейскай бяспекі. Ён, у прыватнасці, сказаў, што важным фактарам, які садзейнічаў бы паскарэнню закладкі фундамента надзейнай бяспекі ў Еўропе, магла б стаць сустрэча на вышэйшым узроўні ўсіх краін, якія ўдзельнічаюць у агульнаеўрапейскім працэсе, уключаючы, вядома, ЗША і Канаду, для абмеркавання пытання аб тым, як перайсці ад слоў да справы ў галіне скарачэння звычайных узбраенняў. Правільна падмечана: Еўропе патрэбны свае Жэнева і Рэйк'явік.

Скарачэнне звычайных узбраенняў, з нашага пункту погляду, павінна суправаджацца і адпаведным зніжэннем ваенных расходаў. Дзеянні, накіраваныя на ўмацаванне стабільнасці на Еўрапейскім кантыненце, трэба дапоўніць мерамі па змяншэнню ваеннай актыўнасці ў акваторыях мораў і акіянаў, зніжэнню ваеннага процістаяння на Поўначы Еўропы і ў Арктыцы, ператварэнню Міжземнамор'я ў зону міру і супрацоўніцтва. Ёсць адпаведныя прапановы розных краін наконт гэтага. Росту стабільнасці ў Еўропе і ўпэўненасці еўрапейцаў у заўтрашнім дні садзейнічала б прапануемае СССР стварэнне еўрапейскага цэнтра па змяншэнню ваеннай небяспекі і прадухіленню раптоўнага нападу.

У еўрапейскім кантэксце часта выказваецца перавага паступоваму, паэтапнаму руху да мэт ўмацавання бяспекі і скарачэння ўзбраенняў. Як уяўляецца, такому падыходу адпавядае кола прапаноў аб зонах, якія б прадухіляджвалі спецыяльныя рэжымы адносна пэўных відаў узбраенняў. Такія зоны маглі б стаць эмбрыёнамі, здольнымі з цягам часу паступова развіцца ў меры больш шырокага характару і маштабу, аж да агульнакантынентальнага. На разгортванне прадукцыйнага дыялога на гэту тэму накіраваны прапановы ГДР і Чэхаславакіі, Балгарыі і Румыніі аб стварэнні ў Цэнтральнай Еўропе і на Балканах зон, свабодных ад ядзернай і хімічнай зброі, прапанова скандынаўскіх краін аб стварэнні бяз'ядзернай зоны на Поўначы Еўропы. Ёсць таксама канкрэтныя прапановы сацыялістычных дзяржаў аб змяншэнні ў зоне межавання НАТО і АВД канцэнтрацыі ўзброеных сіл і ўзбраенняў да мінімальнага ўзгодненага ўзроўню, вывадзе з гэтай зоны найбольш небяспечных, наступальных відаў узбраенняў; аб стварэнні бяз'ядзернага калідора ўздоўж лініі межавання НАТО і АВД; прапанаваны Польшчай план скарачэння ўзбраенняў і павышэння давер'я ў Цэнтральнай Еўропе; ідэі стварэння ў канчатковым выніку ўздоўж лініі межавання двух саюзаў зоны давер'я, супрацоўніцтва і добрасуседскіх адносін.

ВІЗІТЫ

## ЗНАХОДЖАННЕ Ж. Э. ДУШ САНТУША Ў МІНСКУ

Старшыня МПЛА—Партыі працы, Прэзідэнт Народнай Рэспублікі Ангола Ж. Э. душ Сантуш, які знаходзіўся ў нашай краіне па запрашэнню савецкага кіраўніцтва з кароткім рабочым візітам, пабываў у Мінску.

На аэрадроме, упрыгожаным дзяржаўнымі флагамі Народнай Рэспублікі Ангола, СССР і БССР, Ж. Э. душ Сантуша цёпла віталі намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевіч, іншыя афіцыяльныя асобы.

У Цэнтральным Камітэце КПБ адбылася гутарка кіраўнікоў рэспублікі і Ж. Э. душ Сантуша. Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалоў расказаў аб працэсах перабудовы і дэмакратызацыі, якія праходзяць у рэспубліцы, аб развіцці эканомікі і культуры.

Ж. Э. душ Сантуш падзякаваў за цёплы, сардэчны прыём на беларускай зямлі. Ён расказаў аб будаўніцтве новага жыцця пад кіраўніцтвам МПЛА—Партыі працы. Падкрэслівалася каштоўнасць савецкага вопыту для станаўлення і развіцця Народнай Рэспублікі Ангола, важнасць усебаковай інтэрнацыянальнай дапамогі і падтрымкі, якія аказваюцца СССР.

У гэты ж дзень госць з Анголы агледзеў выдатныя мясціны Мінска, пабываў у Доме-музеі I з'езда РСДРП.

УЗНАГАРОДЫ

## ЗАСЛОН ВІБРАЦЫІ

Прэміі Савета Міністраў СССР 1988 года ўдастоена група беларускіх вучоных і спецыялістаў, якія вырашылі праблему вібрааховы будынкаў ад уздзеяння рухомага саставу метрапалітэна.

У пачатку лістапада ў Мінску першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Еўтух уручыў лаўрэатам дыпломы і нагрудныя знакі. Ён адзначыў, што новаўвядзенне беларускіх даследчыкаў, інжынераў і рабочых дапамога справіцца і з важнай сацыяльнай праблемай, якая хвалюе жыхароў гарадскіх раёнаў са шчыльнай забудовай. Упершыню ў айчыннай практыцы ўкаранёны арыгінальны метад, пры якім надземную частку будынкаў манціруюць на вібраізалятары, поўнасцю аддзяляючы ад грунту. Гадавы эканамічны эфект ад укаранення распрацоўкі складае 600 тысяч рублёў.

СЯБРОЎСТВА

## АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

Усяго некалькі кіламетраў раздзяляюць Гродзеншчыну і невялікі польскі гарадок Сакулка. Але, як кажуць, дружба не ведае граніц.

Сустрэча жанчын Гродзеншчыны і Беластоцкага ваяводства — яшчэ адно праяўленне сяброўскіх сувязей паміж братнімі народамі.

Ад сэрца да сэрца ішла шчырая, зацікаўленая размова аб тым, што сёння хвалюе беларусаў і палякаў, як ім жывецца і працуецца, аб міры, аб дзецях. І нібы памаладзела старадаўняя Сакулка, калі ў віхуры танца закруціліся дзіцячыя ансамблі «Ўсмешка» з Беластока, «Крынічка» з Гродна, «Лялечкі» з Абухава Гродзенскага раёна.

ЭЛЕКТРОННАЯ «АЗБУКА»

## НА ЎРОК ДА КАМП'ЮТЭРА

Вучэбны дыялог з ЭВМ упершыню ўключаны ў школьны расклад старшакласнікаў у Берастаўіцкім раёне. Такая магчымасць паявілася з адкрыццём пры вучэбна-вытворчым камбінаце, размешчаным у пасёлку Малая Бераставіца, міжшкольнага камп'ютэрнага цэнтра. Звыш 330 вучняў дзесятых і дзевятых класаў з усіх школ пад кіраўніцтвам спецыялістаў-выкладчыкаў замацоўваюць тут атрыманыя на месцах тэарэтычныя веды. Пакуль яны авалодваюць электроннай «азбукай», а ў перспектыве змогуць набыць разам з атэстатам аб заканчэнні школы спецыяльнасць аператараў ЭВМ з правам работы ў інфармацыйна-вылічальных цэнтрах.

На Гродзеншчыне ўжо больш дваццаці такіх вучэбных комплексаў. Асновамі інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі тут авалодваюць амаль кожныя два з трох дзесяцікласнікаў, нямала вучняў дзевятых класаў. Для аказання метадычнай дапамогі выкладчыкам аналагічны цэнтр створаны і пры абласным Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Да канца навучальнага года намечана адкрыць яшчэ некалькі камп'ютэрных цэнтраў.

ВЫСТАЎКІ

## КНІГІ З ФРГ

Сталіца Беларусі зноў прымала кніжную выстаўку з-за рубяжа. Услед за «Мнагакніжнай Амерыкай» мінчане змаглі пазнаёміцца з навінкамі заходнегерманскага выдавецтва «Мак Гроу-Бук. КО. ГМБХ». Экспазіцыя, якая адкрылася ў канцы кастрычніка на праспекце Машэрава ў Мінску, складалася з 550 тамоў мнагапрофільнай літаратуры: слоўнікаў і энцыклапедычных даведнікаў, выданняў па інфарматыцы і электроніцы, эканоміцы, медыцыне, іншых галінах навукі і тэхнікі.

Гэта першы візіт заходнегерманскіх выдаўцоў у Беларусь. І хоць сама выстаўка лічылася азнаямленчай, яе правядзенне насіла камерцыйны характар. Наладжванне дзелавога супрацоўніцтва—у нашых агульных інтарэсах. Спецыялісты вялі перагаворы аб развіцці прамых сувязей і заключэнні ўзаемавыгадных здзелак у галіне кнігагандлю і сумеснай выдавецкай дзейнасці.

ДАХОДНЫ ПРОМЫСЕЛ



**Іван МАНДРЫКАЎ (на здымку) — грыбавар з 25-гадовым стажам. У сваёй справе ён лічыцца лепшым ва ўсёй акрузе. Сёлета Іван Міхайлавіч здасць на кансервавы завод калгаса «Зара» Баранавіцкага раёна каля 40 тон прадукцыі. А дапамагае вопытнаму майстру ўся яго сям'я.**

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю



# ДЭБЮТ У ПАРЫЖЫ

**На Сусветным аўтасалоне ў Парыжы ўпершыню быў прадстаўлены савецкі грузавы аўтамабіль. Машына, сканструяваная і выраблены на Мінскім аўтамабільным заводзе, выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў выстаўкі і спецыялістаў. У сувязі з гэтым прапануем чытачам газеты невялікае інтэрв'ю з галоўным канструктарам аб'яднання БелаўтаМАЗ Міхайлам ВЫСОЦКІМ.**

— МІХАІЛ СЦЯПАНАВІЧ, У АРТЫКУЛЕ Ў БЕЛЬГІЙСКАЙ ГАЗЕЦЕ «ЛОЙД АНВЕРСУАЗ» БЫЛІ НАСТУПНЫЯ СЛОВЫ: «САВЕЦКІ ПРАТАТЫП ГРУЗАВОГА АЎТАМАБІЛЯ СТАЎ ТАЯМНІЧАЙ ЗОРКАЙ САЛОНА». ЧАМУ ТАЯМНІЧАЙ? МОЖА, ВЫ ХАЦЕЛІ ЎТАІЦЬ СВАЕ КАНСТРУКТАРСКІЯ, ТЭХНАЛАГІЧНЫЯ САКРЭТЫ?

— Хутчэй, наадварот. Мы імкнуліся прадэманстраваць усе якасці нашага аўтамабіля «МАЗ-2000». Над ім доўга працавалі, шмат сіл і энергіі ўклалі ў работу. І, безумоўна, заставацца ў ценю нам зусім не хацелася. Тым больш, калі ўпершыню прыехалі на сусветны аўтасалон, трэба было не толькі людзей паглядзець, але і сябе паказаць. Праўда, арганізатары выстаўкі адвялі нам, мабыць, як навічкам, месца ў адным з нязручных куткоў павільёна, так што наша гордасць «МАЗ-2000» амаль схавался за іншай экспазіцыяй.

— АЛЕ Ж «ЗОРКА», ЯК НАЗВАЛІ АЎТАМАШЫНУ ЗАМЕЖНЫЯ СПЕЦЫЯЛІСТЫ, І СА СВАЙГО КУТКА ЯРКА ЗАЗЗЯЛА?

— Самі мы наш аўтамабіль «зоркай» не называем—гэта толькі пачатак вялікай работы. Але ў Парыжы «МАЗ-2000» паспех меў, што праўда, то праўда.

Гэта прынцыпова новая машына. Стваралася яна пад дэвізам: «Перагнаць не даганяючы».

— ДЫК ЯК ЖА МІНСКІЯ АЎТАМАБІЛЕБУДАЎНІКІ ЗБІРАЮЦЦА ПЕРАГНАЦЬ ЛЕПШЫЯ СУСВЕТНЫЯ ФІРМЫ?

— Справа ў тым, што цяперашняй схеме аўтамабіля ўжо больш за 90 гадоў. І на МАЗе вырашылі стварыць не проста яшчэ адну мадэрнізаваную сістэму па традыцыйнай схеме, а пайсці прынцыпова новым шляхам. Так нарадзіўся аўтапоезд модульнага тыпу. Яго дапушчальная грузападымальнасць 80 тон.

У чым жа перавагі беларускай канструкцыі?

Галоўнае: замест дзесяткаў розных мадэлей у вытворчасці пастаянна знаходзіцца толькі 5—6 уніфікаваных паміж сабою блокаў-модулей. З іх фактычна і камплектуецца аўтамабіль. Зрабіць гэта можна і на заводзе, і на спецыялізаваных аўтапрадпрыемствах. Прычым зборка аўтапоезда кожны раз робіцца ў залежнасці ад таго, які груз трэба будзе везці і колькі. Між іншым відазмяніць канструкцыю можна нават на працягу аднаго рэйса, зразумела, калі ў гэтым будзе патрэба.

Аўтапоезд модульнай кампаноўкі мае добрыя аэрадынамічныя якасці—на ўзроўні сучаснага легкавога аўтамабіля і, адпаведна, траціць мала паліва. Кабіна яго камфартабельная: у ёй можна стаць у поўны рост і нават прыгатаваць абед. Устаноўлены халадзільнік, тэлевізар, кандыцыянер, магнітола, тэлеўстаноўка задняга агляду. Машына мае незалежную пнеўматычную падвеску ўсіх колаў і арыгінальную схему рулявога кіравання, якія значна паляпшаюць манеўранасць аўтапоезда.

— ЯК УЗНІКЛА ІДЭЯ МОДУЛЬНАГА АЎТАПОЕЗДА?

— Я ўжо казаў, што гэта прынцыпова новая ідэя ў аўтамабілебудаванні. Пасля работы, распачатай у 1979-м годзе, у ініцыятыўным парадку, з сакавіка 1986-га працуе творчая маладзёжная група на чале з Віктарам Сівалобавым, да якой падключыўся крыху пазней практычна ўвесь калектыў прадпрыемства. Быў выраблены дослены ўзор аўтапоезда, які ўпершыню прадставілі шырокай публіцы на ВДНГ СССР у Маскве да адкрыцця XIX партыйнай канферэнцыі. А яшчэ праз некалькі месяцаў адбыўся аўтасалон у Парыжы.

— АЎТАМАБІЛЬ, ЯКІ ТАМ ЭКСПАНАВАЎСЯ, МЕЎ ВЕЛЬМІ ВЫРАЗНУЮ «АСАБОВУЮ» НАЗВУ — «ПЕРАБУДОВА» («PERESTROYKA»). ВІДАЦЬ, ГЭТА НЕ ВЫПАДКОВА?

— Так, мы лічым, што «МАЗ-2000»—прадукт новага мыслення, новых тэндэнцый у развіцці савецкай прамысловасці, і для нас, аўтамабілебудаўнікоў,—сімвал перабудовы. Але зноў-такі, не трэба забываць, што дасягненняў магло б быць і больш. Напрыклад, у нашым аўтапоездзе стаіць не айчынны рухавік, а выраблены заходняй фірмай «Мап». Такім чынам, наша «Перабудова» — рэч рэальная, але далёка яшчэ не закончаная.

— КАЛІ Ж «МАЗ-2000» МОЖА БЫЦЬ ЗАПУШЧАНЫ Ў СЕРЫЙНУЮ ВЫТВОРЧАСЦЬ?

— Пры выкананні пэўных умоў у 1995—2000 гадах.

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# ДЫРЭКТАР «ЯХІМОЎШЧЫНЫ»

Яхімоўшчына, цэнтр аднайменнага саўгаса, размясцілася кіламетраў за дваццаць ад Маладзечна. Вёску ж ведаюць не толькі ў раёне, але нават і за межамі Беларусі. У 1906—1907 гадах тут жыў Янка Купала, працаваў памочнікам вінакура на бровары ў маёнтку пана Любанскага.

Калі арганізаваўся саўгас, гаспадарка стала ўзорнай. За гэта былому кіраўніку «Яхімоўшчыны» прысвоілі званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Але вось у канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў саўгас раптам, як кажуць, скаціўся ў лік адстаючых. Потым у друку з'явілася паведамленне, што гаспадарку прыняў малады кіраўнік Генадзь Бажко, што справы ў «Яхімоўшчыне» зноў пайшлі на лад, што вядзе ён работу па-новаму, спаўна карыстаецца правам, якое дала яму перабудова. Захацелася пазнаёміцца з Генадзем Іванавічам.

Памятаеце «Узнятую цаліну» Міхаіла Шолахава? Дзед Шчукар вязе Давыдава і расказвае, што робіцца ў іх станіцы. Мне, вядома, Шчукар не трапіўся. Але ехаць на фурманцы ў Яхімоўшчыну ад маладзечанскай шашы прыйшлося. І даведаўся ад майго «фурмана», тутэйшага пажылога селяніна Лапіна, шмат чаго.

Гадоў сорак назад Лапін прыехаў у Яхімоўшчыну з-пад Смаленска. Стаў працаваць нарыхтоўшчыкам скур. Ён не прамінуў успомніць нядобрым словам былое кіраўніцтва саўгаса: «Даваяло гаспадарку да нуля. А некалі ж ганарыліся поспехамі. І чаму толькі Героя не забралі ў дырэктара?» Хваліў новага: «Спраўна вядзе перабудову». І ў той жа час паспеў паскардзіцца: «Заработкі мае ў апошні час змяншаюцца. Хутка без працы застануся».

Лапін ужо на пенсіі. І, вядома, хвалююць яго не самі заработкі: пенсія ж добрая, дай бог кожнаму. Проста не можа чалавек без сваёй звычайнай справы застацца і на старасці гадоў.

Калі паслухаць Лапіна, то атрымліваецца і сапраўды, як у таго Шчукара: то раптам хваліць новага старшыню, то нечым незадаволены застаецца. Нейкія кантрасты, ды і толькі.

Хаця кантрасты я заўважаў і ў самой вёсцы: добрыя, гарадскога тыпу дамы і побач старыя хацінкі, нядаўна пабудаваны фантан і літаральна за трыццаць крокаў ледзь-ледзь не развальваецца той будынак, у якім жыў беларускі пясняр. Адным словам, тэма для гутаркі з дырэктарам саўгаса ў мяне знайшлася адразу, і не адна.

Генадзь Іванавіч расказаў аб сабе коратка. Ён з тутэйшых. Рос у саўгасе. Пасля школы, як і многія вясковыя хлопцы, падаўся ў горад, паступіў у політэхнічны інстытут. Але, як ён сказаў, душа не ляжала да гарадской прафесіі. Пасля арміі паступіў у Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Скончыў датэрмінова. Вярнуўся ў родныя мясціны. І не адзін: разам з дзяўчынай, Верай, якая некалі жыла ў суседняй з Яхімоўшчынай вёсцы Палачаны. Пажаніліся. Працаваў электрыкам, інжынерам, а ў 1986 годзе стаў дырэктарам саўгаса.

Прыняў гаспадарку, у касе якой не было ніводнага рубля.

— Я тут не хачу вінаваціць Івана Дзяржынскага, майго папярэдніка,— расказвае Генадзь Іванавіч.— Чалавек шмат што зрабіў: пабудаваў з дзесятак дамоў, тэхніку набыў... Вось толькі час у яго быў не такі, як сёння. Раней на моцных гаспадарках, можна сказаць, і ездзілі, каб мець добрыя паказчыкі сярод раёнаў вобласці. Спраўна разлічваўся саўгас з дзяржпастаўкамі, а з яго раённае кіраўніцтва патрабавала яшчэ звыш плана, за іншых здаваць прадукцыю. Не было зацікаўленасці хадзіць у перадавіках.

Пытаюся, што змянілася цяпер, за гады перабудовы, што паспеў зрабіць за гэты невялікі прамежак часу дырэктар саўгаса.

Генадзь Бажко запрасіў зрабіць экскурсію па Яхімоўшчыне. Падвёў да двухпавярховага будынка, ля якога завіхаліся людзі: бульдозерам раўнавалі пляцоўку, зносілі ламачча.

— Будуем фізкультурна-аздараўленчы комплекс. У ім будуць працаваць чатыры ўрачы, размесцяцца пакоі для працэдур, аэробікі, зробім басейн,— ахвотна тлумачыў дырэктар.

Што ж, гэта справа патрэбная. Але ж карцела спытаць, чаму не дайшлі рукі да таго дома, дзе жыў Янка Купала. Нядрэнна было б тут і музей адкрыць, адрамантаваўшы.

Генадзь Бажко хітравата ўсміхнуўся:

— Вы мяркуеце, штс … за «так сабе» робім узнос… зварыству аховы помнікаў гісторыі?.. Не. На гэтую хаціну яно выдзяляе нам тысяч трыццаць. Так што марудзілі мы, як бачыце, не дарэмна.

— І заўжды вы чакаеце, калі знойдуцца добрыя дз… кі і ахвяруюць некалькі т… ?— зноў не ўтрымаўся я ад спакуслівага пытання.

— Вось тут ужо прабачце,— запярэчыў дырэктар. Паказаў на новыя дамы, у бок кацельні і жывёлагадоўчага комплексу. — Усё гэта мы за свае грошы пабудавалі.

Генадзь Іванавіч расказаў, што саўгас атрымаў вялікую самастойнасць. Не сакрэт, што раней «зверху», менавіта з раённага камітэта партыі, маглі рэкамендацыю даць, што будаваць, як распараджацца сваімі ж грашыма. Нярэдка такія рэкамендацыі шкодзілі справе.

— Атрымаўшы самастойнасць,— падкрэслівае дырэктар «Яхімоўшчыны», — кіраўніцтва саўгаса параілася з рабочымі. Спыніліся на тым, што ў першую чаргу трэба забяспечыць усіх жыллём. Тут праблем, як кажуць, не было. На сённяшні дзень усе рабочыя забяспечаны дамамі...

— Але ж у Яхімоўшчыне ёсць і хаты, якія дажываюць апошнія гады,— запярэчыў я.

— Вядома, некалькі хатак засталося,— згаджаецца Генадзь Бажко.—Усё ніяк не магу ўгаварыць старых пераехаць у новыя дамы. Кажуць, няхай маладыя пераязджаюць. А мы свой век тут дажывём. А калі што, то і ў дом састарэлых папросімся. Дарэчы, заклалі ўжо яго фундамент.

— Напэўна ад старых маеце нямала турбот? — пытаюся ў дырэктара. І атрымліваю адказ, што не вельмі. Саўгас узяў на сябе ўсе клопаты па нарыхтоўцы сена, пасадцы і ўборцы бульбы, выдзяляе людзей для апрацоўкі прысядзібных участкаў пенсіянераў.

Вакол Яхімоўшчыны няма вялікіх лясоў, няма і балот. Таму цікаўлюся, дзе рабочыя бяруць паліва.

— Неяк я падлічыў, якія сродкі мы трацім на нарыхтоўку паліва. Атрымалася вялікая лічба. У кожны дом на зіму патрэбна не адна тона таго ж брыкету. Вазіць яго далёка,— кажа Генадзь Іванавіч.— Вось і прапанаваў пабудаваць кацельню. На сённяшні дзень правялі цяпло ў 85 дамоў. Справа для мяне аказалася нялёгкай. Былі ў гаспадарцы людзі, якія выступалі супраць гэтага.

Нічога лёгка не даецца дырэктару. У той дзень мы наведалі жывёлагадоўчы комплекс. У кароўніку дзяжурыла адна з даярак.

Дырэктар пажартаваў:

— Мо, Каця, зноў на адназменку пяройдзем?

— Што вы, Генадзь Іванавіч! Якую вы для нас добрую справу зрабілі. Не хочам працаваць па-старому.

Генадзь Бажко паказваў пакоі адпачынку даярак і расказваў мне, як не хацелі яны пераходзіць на двухзменны рэжым працы. Казалі, што страцяць у заработку. А на самай справе не згубілі ні капейкі, атрымалі выхадныя дні, сталі больш бываць дома.

Тут прыгадалася размова з Лапіным. Чаму ж тады ён скардзіўся, што зніжаюцца яго заработкі? Адказ на гэта пытанне я атрымаў крыху пазней. Тады, калі Генадзь Бажко дзяліўся планамі на будучыню. Трэба пабудаваць лесапільню, яшчэ некалькі жылых дамоў — людзі ж прыязджаюць з розных месцаў у саўгас, ёсць кафэ «Купальская ноч», дыскатэка, а стары клуб не адпавядае дню сённяшняму — моладзь патрабуе збудаваць новы. Патрэбны грошы, і немалыя. Так, цяпер гаспадарка мае штогод больш паўмільёна прыбытку, але і іх на ўсё можа не хапіць.

Вось і задумаў Генадзь Іванавіч на базе былога спіртзавода зрабіць піваварны. Гэта дасць, па разліках дырэктара, 150—200 тысяч рублёў даходу штогод. Яшчэ вялікую надзею ўскладае на селекцыйную работу. Сёння гаспадарка атрымлівае па 1 200 цэнтнераў малака на 100 гектараў сельгасугоддзяў — самы высокі паказчык у раёне. Тут маюць пароды кароў, якія даюць па 4 000 і больш кілаграмаў малака ў год. Стварыліся спрыяльныя ўмовы для селекцыі. Затое значна скарацілася колькасць жывёл мясной пароды. Вось чаму ў Лапіна і змяншаецца заработак.

Пры сустрэчы са мной дырэктар называў сваіх памочнікаў, аднадумцаў, знаёміў з імі (без іх, на думку Генадзя Іванавіча, ён адзін нічога не зрабіў бы). І сярод іх былі людзі і з вышэйшай адукацыяй (селекцыйную работу ўзначальвае, напрыклад, галоўны заатэхнік Іван Бірко), і тыя, хто ніколі не пераступаў парог вышэйшай навучальнай установы (дырэктар тут назваў механізатара Мікалая Троцкага і іншых).

...Наша машына шпарка імчалася па той жа гравейцы, па якой вёз мяне ў Яхімоўшчыну Лапін. Ля зааранага поля дырэктар прытармазіў і сказаў: «Мікалай Троцкі папрацаваў. Яго почырк. Ні агрэхаў, ні баразён глыбокіх. Возьмеш у рукі зямлю — рассыпаецца. Быццам сэрцам сагрэў яе трактарыст».

Мне падумалася: гэтыя ж словы можна аднесці і да самога дырэктара. Ён яшчэ малады. Усяго трыццаць чатыры гады. Ды і на пасадзе зусім мала пабыў, але як многа зроблена, якія планы выношвае, як беражліва ставіцца да сваёй зямлі, зямлі сваіх продкаў. Быццам сэрца ўкладвае, каб яна шчодра адорвала руплівых людзей Яхімоўшчыны, мясцін, якія некалі апеў сам Янка Купала.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

*ГОРАД ПАБУДАВАЎ ТЭАТР*



# ЦІ ПАЕДУЦЬ «ЗОРКІ» Ў ВІЦЕБСК?

**На гэтае пытанне жыхары Віцебска ў апошні час адказваюць выключна аднадушна: так, паедуць. «Карацей, ужо прыязджаюць», — папраўляе Віктар Чарноў. А ён жа пра гастрольныя афішы даведваецца …ей, чым іншыя...**

Віктар Чарноў — дырэктар Віцебскага летняга амфітэатра, той самай сцэны, якая была пабудавана спецыяльна да Першага фестывалю польскай песні … працягвае цяпер артыстаў …о, зрэшты, па яго думку, натуральна.

— Другой такой сцэны ў нашай краіне няма,— гаворыць ён. — Хаця б па сваіх маштабах: пяць з палавінай тысяч гледачоў прымае наша зала пад адкрытым небам. Прычым з любога месца сцэна відаць, як на далоні.

Дарэчы, пра сцэну. Яна, калі можна так сказаць, утульная, нягледзячы на свае памеры — 18 на 30 метраў. Спецыяльнае афармленне візуальна робіць пляцоўку меншай, і з дапамогай розных «выгарадак» лёгка мяняецца яе вонкавы выгляд. Між іншым, сцэна гэта разборная: на зіму яе схаваюць пад дах, каб напачатку наступнага сезона (у красавіку) устанавіць ужо як-небудзь па-новаму.

Немалаважная (і нятанная — 260 тысяч валютай) дэталь: спевакі і ансамблі могуць цяпер прыязджаць у Віцебск без сваёй апаратуры: усё неабходнае і высокай якасці ёсць на месцы. Як і спецыяльны штат тэхнікаў, якія абслугоўваюць яе. Падабаецца артыстам і тое, што ў тэатры дастаткова грымёрных, што ў холах зручная мяккая мэбля для адпачынку, а ў перапынках паміж выступленнямі ў спецыяльна наладжаным для іх бары можна выпіць кубачак кавы.

— Павінен адзначыць і тое, — працягвае свой расказ Чарноў,— што, як усе мы лічым, летні амфітэатр цудоўна ўпісаўся ў агульны выгляд цэнтральнай часткі горада. Размешчаны ён у адным з прыродных яроў. І хоць з яго схілаў немагчыма ўбачыць, што адбываецца на сцэне, затое... нядрэнна чуваць. Таму тыя, хто не дастаў білет на канцэрт любімага артыста, тым не менш таксама могуць чуць яго выступленне. Пры гэтым можна любавацца кветкамі, што растуць вакол тэатра, пасядзець за столікам кафэ-«званочка».

— Будаўніцтва летняга амфітэатра каштавала гораду некалькі мільёнаў рублёў. Як хутка акупяцца гэтыя расходы, калі ўлічыць, што працуе ён толькі з красавіка па кастрычнік?

— Па-першае, я б не пераводзіў усё на мову лічбаў. Ёсць «выгады», якія папросту немагчыма падлічыць, напрыклад, тую карысць, што прыносіць нам мастацтва. А па-другое, хоць нятанным было будаўніцтва, але мы яго апраўдаем за некалькі гадоў: узводзілі амфітэатр без датацый з боку якіх-небудзь міністэрстваў і ведамстваў і эксплуатуем яго цяпер, таксама ні з кім не дзелячыся сваім прыбыткам. Зборы ж ад канцэртаў, якія ўжо адбыліся, немалыя, паколькі да нас прыязджалі вельмі папулярныя артысты — Лайма Вайкуле, Кацярына Сямёнава, Аляксандр Барыкін. Славуты маскоўскі мадэльер Вячаслаў Зайцаў свае новыя мадэлі паказваў... Дарэчы, усе яны высока ацанілі вартасці амфітэатра — знайшлі яго зручным, лёгкім для работы.

І яшчэ наконт сродкаў. Канцэрты на сцэне амфітэатра будуць ісці сапраўды толькі ў цёплы сезон. Але сваю дзейнасць мы не спынім і зімой. Артысты, натуральна, на занесенай снегам сцэне выступаць не будуць. Затое ўсім жадаючым мы прапануем напракат лыжы, канькі, санкі...

— Як я ведаю, амфітэатр у Віцебску быў пабудаваны ў рэкордна кароткі тэрмін?

— Так, за лічаныя месяцы. Праўда, працавалі мы, не шкадуючы сіл. У дзесяткі гарадоў ездзілі нашы машыны і супрацоўнікі за будаўнічымі матэрыяламі, тэхнікай, абсталяваннем, мэбляй. Многае рабілі самі ці заказвалі ў кааператывах. Вельмі актыўна і добраахвотна дапамагалі і гараджане: прыбіралі тэрыторыю, азеляніялі схілы яра. Між іншым, менавіта для будаўнікоў і іх сямей быў дадзены самы першы канцэрт на гэтай сцэне. А потым, як усе ведаюць, адбыўся Першы Ўсесаюзны конкурс выканаўцаў польскай песні. Ну а затым... Затым віцябчане перасталі зайздросціць іншым — жыхарам тых буйных гарадоў, куды перш за ўсё імкнуліся вядомыя і любімыя артысты. Таму што яны сталі прыязджаць і ў наш горад.

**Наталля БУЛДЫК.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# СЦЕЖКАМІ МАМАНТАЎ

«Па маёй ініцыятыве і на прыватныя сродкі былі праведзены на Новасібірскіх астравах (в. Вялікі Ляхоўскі) раскопкі рэшткаў маманта, якія вяліся на працягу двух гадоў партыямі прамыслоўцаў і далі наступныя вынікі.

З трупа маманта, што ляжаў у мёрзлым грунце з ільдамі чацвярцічнай эпохі, здабыта: амаль поўны шкілет, скура і чатыры ступні з падэшвамі і капытамі. У шкілеце няма правага біўня, каля паловы пазванкоў і рабрын, а таксама дзвюх касцей пярэдняй нагі. Вага левага біўня, зусім свежага і цэлага, 2 пуды. Скура добра захавалася і напалову пакрыта кароткімі густымі валасамі, што ўказвае на гібель жывёлы летам. Доўгая светла-бурая поўсць захавалася на нагах, асабліва на пярэдняй левай назе. На скуры галавы... маецца вуха левае, а таксама палова ніжняй губы. Агульная колькасць скуры дастатковая для прыгатавання чучала жывёлы, а яе захаванасць намнога лепшая за ўсіх здабытых да гэтага часу мамантаў, што захоўваюцца ў Акадэміі навук...»

Гэты унікальны экспанат цяпер знаходзіцца ў Нацыянальным музеі гісторыі прыроды ў Парыжы. А знайшоў, апісаў маманта, збярог для навукі шкілет і рэшткі жывёлы амаль 80 гадоў назад даследчык арктычных раёнаў Усходняй Сібіры, наш зямляк Канстанцін Валасовіч.

К. Валасовіч нарадзіўся ў 1869 годзе ў вёсы Ёдчыцы Слуцкага павета. Бацька яго быў праваслаўным свяшчэннікам у Ёдчыцах, дзе пражыў усё жыццё і памёр ва ўзросце 68 гадоў. Маці была са збяднелага шляхецкага роду Лісоўскіх.

Пра дзіцячыя гады Канстанціна захавалася мала звестак. Але яго сёстры расказвалі, што ён быў хлапчуком непаседлівым і нават свавольным. Як было прынята ў сем'ях духавенства, К. Валасовіч паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. Атрымаўшы пасведчанне аб сканчэнні курса, ён некаторы час працаваў псаломшчыкам у Бабруйскім і Навагрудскім паветах. Здаецца, жаданне бацькі збылося. Але нечакана для ўсёй сям'і Канстанцін паступае на факультэт прыродазнаўчых навук Варшаўскага універсітэта. Там вывучае геалагічныя дысцыпліны пад кіраўніцтвам прафесара В. Амаліцкага. Аднак спецыялізавацца тады ў гэтай галіне ён не стаў, бо зацікавіла хімія.

Прымаў актыўны ўдзел у падпольнай рэвалюцыйнай дзейнасці. На сваёй кватэры К. Валасовіч праводзіў сустрэчы прадстаўнікоў сацыял-дэмакратычных гурткоў Масквы і Пецярбурга з варшаўскімі сацыял-дэмакратамі. Дапамагаў перадаваць і распаўсюджваць нелегальную літаратуру з-за граніцы.

Вучобу ва універсітэце закончыў у 1892 годзе і атрымаў ступень кандыдата прыродазнаўчых навук. Пасля гэтага пераехаў у Пецярбург і некаторы час працаваў у хімічнай лабараторыі Акадэміі навук, а затым у Лясным інстытуце. Ён вырашыў заняцца вывучэннем спецыяльных лесахімічных дысцыплін і працягваць у інстытуцкіх лабараторыях даследаванне прадуктаў сухой перагонкі драўніны. Сродкі для існавання давала педагагічная дзейнасць. Але гэтага не хапала. Па рэкамендацыі аднаго з варшаўскіх чыноўнікаў, сыну якога Валасовіч у студэнцкія гады даваў урокі, Канстанцін Адамавіч стаў дамашнім настаўнікам і выхавацелем маладога графа А. Стэнбок-Фермора. Ён і дапамог арганізаваць экспедыцыю для перавозкі рэшткаў маманта з Новасібірскіх астравоў у Пецярбург.

У 1894 годзе пачаліся правалы ў варшаўскіх рэвалюцыйных арганізацыях. Паліцыя вылоўлівала іх удзельнікаў і ў Пецярбургу. К. Валасовіч, які не траціў сувязей з падполлем, даведаўся аб пагрозе, якая навісла над ім. Нечакана для гаспадароў ён тэрмінова звольніўся ад Стэнбокаў і адшукаў невялікі пакойчык па выпадковай аб'яве. Прадчуваючы арышт, ён не хацеў кампраметаваць сям'ю, дзе пражыў больш года і дзе да яго добра ставіліся. Праз некалькі дзён яго сапраўды арыштавалі і пасля непрацяглага заключэння ў Петрапаўлаўскай крэпасці адправілі ў Варшаўскую цытадэль.

У турме ён правёў амаль два гады. Калі следства было закончана, Валасовіча выслалі «пад нагляд паліцыі тэрмінам на тры гады за дзяржаўныя злачынствы» ў Архангельск, куды ён і прыехаў 29 красавіка 1896 года.

Архіўныя дакументы Архангельскага жандарскага ўпраўлення і архангельскага паліцмайстра захавалі звесткі пра палітссыльнага Валасовіча: «За час знаходжання паднагляднага К. Валасовіча ў г. Шанкурску і г. Архангельску яму быў дазволены выезд у Шанкурскі павет (Вялікамікалаеўскую, Ліпаўскую, Усцьважскую і Растоўскую воласці) для азнаямлення са смалакурэннем і шкіпінарнай вытворчасцю, на Мудзьюгскі маяк з навуковымі мэтамі, выязджаў таксама ў гарады Анегу і Кем».

Памочнік начальніка губернскага жандарскага ўпраўлення 26 лютага 1898 года дакладваў у сваё ведамства, што Валасовіч «ходзіць па смалакурных заводах і аглядае печы, раіць сялянам будаваць печы іншага тыпу, з якіх, пераконвае, будзе больш выходзіць як смалы, так і шкіпінару... З сялянамі абыходзіцца ветліва, заказаў кавалю... зрабіць для смалакурнай печы трубку...»

Канстанціну Адамавічу быў скарочаны тэрмін ссылкі на адзін год, і 12 сакавіка 1898 года ён вярнуўся ў Пецярбург, адкуль хутка выехаў на Урал, дзе працаваў хімікам на Катаў-Іванаўскіх горных заводах (цяпер Чэлябінскай вобласці. — **У. С.**). Але хутка адтуль вярнуўся назад у Архангельск.

Яшчэ ў ссылцы ў К. Валасовіча з'явілася цікавасць да геалогіі, якая вызначыла далейшы напрамак яго дзейнасці. У 1897 годзе ім было выяўлена, што на рацэ Паўночная Дзвіна паміж двума гарызонтамі валунных суглінкаў залягаюць марскія адкладанні. Вынікі сваіх назіранняў выказаў у артыкуле, які быў надрукаваны Варшаўскім таварыствам даследчыкаў прыроды. Гэта натхніла маладога вучонага, і ён заняўся паглыбленнем сваіх ведаў у геалогіі, завязаў перапіску з аднадумцамі. У 1899 годзе атрымаў невялікую субсідыю ад Мінералагічнага таварыства для збору калекцыі і вывучэння чацвярцічных адкла-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**ДОЎГІ ШЛЯХ ВЯРТАННЯ**

# ЯБЛЫНІ ЛЯ РОДНАГА ДОМА

Вёска Астромічы выцягнулася ўздоўж старой шашы Брэст — Мінск кіламетраў за дванаццаць ад Кобрына. У сонечны восеньскі дзень у многіх дварах людзі былі заняты звычайнымі сялянскімі справамі. Гаспадароў дома я таксама застаў за работай: здымалі з дрэў апошнія яблыкі.

— Колькі разоў мне сніўся гэты сад, колькі гадоў марыў вось так збіраць свае яблыкі і прыходзіў у адчай ад таго, што можа быць ніколі ў жыцці мне больш не ўдасца пасядзець на лавачцы каля роднага дома,— гэтыя словы не раз паўтарыў гаспадар за час нашай размовы.

Нялёгкае жыццё выпала на долю Васіля Бандарука. І мяне здзівіла і ўзрадавала, што пасля стольkіх выпрабаванняў чалавек захаваў душэўнасць і дабрыню, не стаў абыякавым да таго, што адбываецца навокал.

Нарадзіўся ён вось у гэтым самым доме напярэдадні рэвалюцыі. У дзяцінстве быў пастушком, затым працаваў на зямлі. Як вядома, край гэты быў захоплены белапалякамі. Да эканамічнага прыгнечання дабавілася яшчэ і нацыянальнае. Людзі не мірыліся з гэтым. Узмацняўся ўплыў Кампартыі Заходняй Беларусі. Па вёсках праходзілі антыўрадавыя выступленні. Але і тэрор улад узмацняўся. Нават пры самым малым падазрэнні людзей арыштоўвалі. Пасля сходкі, арганізаванай на Першае мая 1938 года ў суседняй вёсцы, разам з многімі іншымі аказаўся ў турме і Васіль Бандарук.

— Ад мяне дабіваліся прызнання аб сувязях з камуністамі, білі страшна,— успамінае Васіль Сцяпанавіч.— Звязвалі рукі і ногі, падвешвалі да столі за ногі і лілі ў нос нейкую смярдзючую гадасць. Потым білі галавой аб сцяну. Але я маўчаў.

Пасля вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй Васіля Бандарука, як бедняка і былога палітзняволенага, выбралі членам селькома. Да таго часу ён ужо ажаніўся, з'явілася дачка. Здавалася, што цяпер усё ў жыцці наладзіцца. Але... Праз паўгода яго зноў арыштавалі. Цяпер ужо як «агента польскай ахранкі». На суд яго не выклікалі — прыгавор аб'явілі ў камеры: 8 гадоў. Цяпер многа пішуць аб ахвярах сталінскіх рэпрэсій. Публічнасць адкрыла заслону над трагічным перыядам нашай гісторыі, які пакалечыў лёсы мільёнаў людзей, калі шматок паперы — нечы злосны бяздоказны данос мог каштаваць чалавеку волі, а то і жыцця.

Пакуль Васіль Сцяпанавіч знаходзіўся ў Кобрыне, жонка кожны дзень насіла яму перадачы. 24 кіламетры пешкі. Але праз некаторы час яго адправілі ў лагер пад Архангельскам, і сувязь з сям'ёй спынілася на дзесяцігоддзі.

— Мне, можна сказаць, пашанцавала,— з сумам усміхаецца Васіль Сцяпанавіч.— У лагеры прабыў нядоўга. Вясной 1940 года надарылася магчымасць добраахвотна ўступіць у польскую армію. Фарміравалася яна ў Афрыцы і ўваходзіла ў склад англійскага экспедыцыйнага корпуса. Вось так пачаліся мае блуканні на чужыне. Ваяваў у Афрыцы. Канваіраваў палонных у Канаду. Быў на перафарміраванні ў Шатландыі. Удзельнічаў у высадцы саюзнікаў у Францыі, вызваленні Бельгіі і Галандыі і скончыў вайну ў Германіі.

Вельмі хацелася Васілю Бандаруку вярнуцца на Радзіму, але не рашаўся. Што магло яго там чакаць? Можа быць, зноў лагер? Скажуць, што англійскі шпіён, і не выратуе ні тое, што ваяваў, ні ўзнагароды. Тым больш, што яны ад урада Вялікабрытаніі — тры баявыя крыжы і медалі. І яшчэ баяўся сапсаваць жыццё жонцы і дачцэ, калі яны жывыя. Таму і вырашыў застацца ў Англіі.

— Узровень жыцця ў гэтай краіне высокі, і я, скажу шчыра, ніколі не бедаваў, хаця і не жыў шыкарна,— працягваў свой расказ Васіль Сцяпанавіч.— Памяняў некалькі прафесій, а апошнія дваццаць два гады працаваў у чыгуначным дэпо ў Лондане. Але ўвесь час мучыўся, думаў аб Радзіме, аб сям'і. Што там і як? Чытаў савецкія газеты. Доўгі час яны мяне не радавалі: усё ў краіне заставалася па-ранейшаму. Але вось у рэшце рэшт надышоў пералом. Выкрылі культ асобы Сталіна, пацяплелі міжнародныя адносіны. І я вырашыў напісаць у родную вёску. Можаце ўявіць, якім шчасцем для мяне было даведацца, што і дачка, і жонка жывыя. З таго часу я не мог ужо думаць ні пра што іншае, акрамя вяртання на Радзіму.

Засталася апаска, як яго сустрэнуць там. Аднак развіццё падзей паказала, што баяцца няма чаго. Перапіска ішла нармальна. У 1970 годзе адважыўся наведаць Астромічы, і нічога не здарылася. У яго ў гасцях пабывала дачка, затым зяць, дазволілі прыехаць жонцы, і апошнія шэсць гадоў у Лондане яны пражылі разам. Перад выхадам на пенсію стаў клапаціцца аб ад'ездзе на Радзіму. Трэба сказаць, што працэдура гэтая аказалася няскорай з-за бюракратызму і неахайнасці некаторых чыноўнікаў.

— Я, вядома, ведаў, што жыццё не стаіць на месцы і што перамены тут адбываюцца вялікія. Аб гэтым пісалі родныя, аб гэтым чытаў у газетах. Але не ўяўляў, што перамены гэтыя акажуцца настолькі ўражлівымі. У мяне перад вачыма ўсе сорак гадоў стаяла родная вёска. Хаткі з саламянымі стрэхамі. Нічога гэтага не было і ў паміне. А за той час, што я тут жыву, Астромічы ўвогуле ператварыліся ў невялікі ўтульны гарадок, хаця і называюцца па-ранейшаму вёскай. Тут ужо не рэдкасць двухпавярховыя дамы з усімі зручнасцямі, магазіны, школа, клуб, такія ж, як у горадзе. Бачу, як добра жыве дачка і ўнукі. І гэта мяне цешыць. Але, калі шчыра, то стараўся я трымацца непрыкметна. Бачыў, што многія адносяцца да мяне насцярожана, з апаскай. Словам, жыў ціха. А вось апошнія тры гады і адносіны да мяне, і маё жыццё змяніліся. Усё дзякуючы перабудове і публічнасці. Людзі зразумелі, што не па сваёй волі быў я вымушаны столькі часу туліцца на чужыне, ды і да свайго ўласнага жыцця ставяцца па-іншаму. Вёска наша ажывілася. Вы б бачылі, як зацікаўлена абмяркоўвалі нашы сяльчане ход XIX партыйнай канферэнцыі. Яна яшчэ раз пацвердзіла, што да старога звароту не будзе, што сур'ёзныя памылкі мінулага, якія паламалі маё жыццё, больш не паўторацца ніколі. Я бачу, што людзі цяпер адчулі сваю датычнасць і неабходнасць удзелу ў пераменах, сталі ганарыцца тым, што яны сяляне, з заклапочанасцю абмяркоўваюць калгасныя справы, цікавяцца ўсім, што адбываецца ў рэспубліцы, ва ўсёй краіне. Цяпер ужо ніхто не баіцца выступіць супраць непарадкаў, несправядлівых ці няправільных распараджэнняў кіраўніцтва, выказаць нейкія свае дзелавыя прапановы па паляпшэнню работы і жыцця. З іх думкай лічацца самыя высокія кіраўнікі. Цяпер я адчуваю сябе шчаслівым чалавекам. Доўгія гады Радзіма жыла ў маім сэрцы, і вось змог вярнуцца сюды. Я ўжо стары чалавек, але ўсё ж паспеў на свае вочы ўбачыць тое, аб чым марыў у юнацтве. Расцвіла мая родная вёска. Тут жывуць і працуюць мае ўнукі, растуць праўнукі. Я зноў набыў бацькоўскі дом.

**Рыгор ФАМЕНКА.**



Позняя восень. Фота **Э. КАБЯКА** і **У. ШУБЫ.**

